Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 5 жніўня 1933 г.

№ 16.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

## Аўторытэтны голас.

У працягу летніх вакацыяў у Вільні адбыўся цэлы рад курсаў, наладжаных для вучыцялёў народных школ. На гэтых курсах лектары, прысланыя з Варшавы, тлумачылі вучыцялём, як яны павінны працаваць у школах згодна з новымі прынцыпамі, каторыя маніцца правясьці ў жыцьцё рэформа школьніцтва.

Сярод прынцыпаў, на якія рабілі асабліва націск лектары, на асаблівую ўвагу заслугуе наступны прынцып: вучыцель у сваей узгадаваўчай працы павінен перад усім лічыцца з тым асяродзьдзем („środowiskiem"), у якім працуе, — гэта значыць: з нацыянальнымі асаблівасьцямі насяленьня, з ягонымі настроямі, імкненьнямі, пажаданьнямі. І вось на адным з курсаў, як нас інфармуюць з зусім верыгоднае крыніцы, пасьля вельмі пераконываючых слоў лектара, вучыцялі палякі пачалі кідаць гэткія словы:

— Добра яму гаварыць! Гэта—тэорыя. Але хай-бы паехаў на правінцыю ды паглядзеў, чаго тамака хоча „środowisko"! Мы да іх папольску, а яны інакш не адказваюць, як пабеларуску. І школы польскае ня хочуць: „вучыце—кажуць—дзяцей нашых у нашай роднай беларускай мове!"—Як-жа мы можам дастарнавацца да гэткага „środowiska"?!

Гэткіх галасоў было шмат. І—што найбольш цікаўна й характэрна — такія заявы рабілі вучыцялі з віленска-троцкага павету, пэўнымі „статыстыкамі" абвяшчанага за „чыста польскі"...

Факт, які мы падалі, найлепш даказвае — і то не тэорэтычна, а практычна, — як рэзка разыходзіцца афіцыяльная школьная палітыка, ведзеная на тэрыторыі Заходняе Беларусі,—з вымаганьнямі ўзгадаваўча-пэдагогічнымі. І голас польскіх вучыцялёў, якія ехалі да нас з усіх канцоў Польшчы дзеля „вялікае культурнае місіі": насаджываньня на „цёмных Крэсах" польскае мовы й культуры, а цяпер сцьвярджаюць поўнае банкруцтва гэтае місіі,—не павінен астацца бяз водгуку! Калі дзяржава хоча ўзгадоўваць у школе запраўды лёяльных грамадзян, дык яна мусіць весьці навуку ў роднай мове дзяцей, мусіць на дзеле выяўляць пашану да іх нацыянальных асаблівасьцяў і пачуцьцяў. Тое, што робіцца ў нас дагэтуль ня толькі ў польскіх школах, але й у так-званых „беларускіх", дзе няма нічога беларускага ні па духу, ні па мове (вучаць вучыцялі-палякі, часта зусім з беларускай моваю незнаёмыя!), дзе дзяцей стараюцца пераканаць аб „ніжэйшасьці" ўсяго беларускага і „вышэйшасьці" ўсяго польскага, — тое не вядзе да мэты з дзяржаўнага гледзішча. Такія школы ў найлепшым выпадку ўзгадуюць рэнэгатаў, якія таксама выракуцца польшчыны, як сяньня выракаюцца беларушчыны, калі ім гэта пакажацца карысным...

Беларусы мусяць атрымаць школу ў роднай мове. Да гэтага, як бачым, прымушае само жыцьцё. Гэта — нязломная воля беларускіх масаў.

## Яшчэ аб тэроры на Савецкай Украіне.

У апошні час, як даносіць польская прэса, проці-украінскі тэрор у Савецкай Украіне прыняў вельмі характэрны напрамак. „Роботнік", орган ППС (Польскай Партыі Социялістычн.) піша:

„На падставе верыгодных вестак з Савецкае Украіны можна сцьвярдзіць, што там распачалася сыстэматычнае зьніштажэньне Заходня-Украінскае эміграцыі".

Гэтая украінская эміграцыя з Усх. Галічыны і Валыні складаецца з учасьнікаў польска-украінскае вайны 1919 г. за Львоў; з моладзі, якая выехала з Польшчы, каб атрымаць вышэйшую асьвету ў школах Савецк. Украіны; урэшце—дый хіба-ж найбольшая частка—з сяброў розных лева-радыкальных партыяў, якія перасьледаваліся ў Польшчы, як камуністычныя ці „камунізуючыя". На чале гэтае найвялікшае групы сталі паслы польскага парляманту, якія так сьмела й адкрыта выхвалялі ў Сойме і Сэнаце да-

брадзействы савецкае ўлады ў Усх. Украіне.

„Арышты сярод украінскіх эмігрантаў, — піша далей „Роботнік“, — прынялі масавы характар, аднак цяжка даведацца аб прозьвішчах арыштаваных. Бясспрэчна сьцьверджаны арышт былых паслоў польскага Сойму Войтюка, Прыступы, Пашчука, а нядаўна і праф. д-ра Міх. Чайкоўскага, был. дырэктара ўкраінскае гімназіі ў Рагатыне“.

Лёс групы ўкраінскае студэнцкае моладзі так сама жахлівы. „Месяцамі чакаюць бацькі іх — піша „Роботнік“ — на якую-небудзь вестачку аб іх лёсе. Надыйшла толькі вестка аб — расстрэле ў Адэсе сына был. пасла польскага Сойму д-ра Західнага, ведамага якраз з сваіх гарачых прамоваў у абароне Савецкае Украіны“...

Прамова Постышева, якога Масква выслала на Украіну на гэтую расправу з украінцамі, нібы-то высьвятляе прычыны гэтага тэрору проці ўкраінскіх камуністаў з Польшчы, якіх ён называе ня толькі „нацыяналістамі“, але і—„шпіёнамі“, „пятлюраўцамі“ (!?) і г. д.

Цяпер кожнаму ясна, — канчае „Роботнік“,—што „Масква зайграла ў адкрытыя карты, дый што Сталін выбраў шлях Пётры Вялікага і Кацярыны II“...

Крыху інакш тлумачыць гэтыя факты эндэцкая „Газэта Варшавска“. Украінскаму пытаньню дае міжнародавы характар толькі канфлікт паміж Польшчай і Расеяй, — піша эндэцкая газэта. Дый толькі сталы польска-расейскі канфлікт, адчыняючы магчымасьці для руху да незалежнасьці Украіны, вызначаў адначасна важную ролю ў гэтым руху Нямеччыне.

„Паправа польска-расейскіх адносінаў, трывала стабілізуючы існуючы лад у гэтай часьці Эўропы, б'е адначасна і па нямецкіх мяркаваньнях (на Украіну) і па незалежніцкім украінскім руху, які траціць дзякуючы гэтаму галоўную (?) сваю палітычную падставу“...

„Вялікая Украіна,—піша газэта далей, — якую хоча стварыць Нямеччына, зьвязаўшы яе саюзам з сабой,—„у сто разоў больш небясьпечна для суседак Расеі — Польшчы і Румыніі, чым расейская палітыка“. Але — без нямецкае дапамогі немагчыма сабе прадставіць Украіну „незалежнай“...

Такім чынам — разгром нацыянальнага жыцьця Савецкае Украіны выклікаваны, з аднаго боку, разрывам Масквы з гітлераўскай Нямеччынай, якая, парваўшы з Масквой, хоча бышцам завязаць беспасярэднюю сувязь з Украінай—у мэтах яе аддзяленьня ад Масквы, а, з другога боку, — збліжэньнем Масквы з Польшчай, якія абедзьве хіба-ж аднолькава не заінтэрэсаваны ў стварэньні незалежнае „Вялікае Украіны“, — ад Каўказу да Карпатаў!...

„Паправа польска-расейскіх адносінаў“ якраз і „пазбаўляе ўкраінскае пытаньне яго міжнародавага характару, яго вонкава-палітычнае падставы“,—піша газэта. Адсюль — імкненьне Масквы пазбавіць „сваю“ Украіну і ўнутранае культурна-нацыянальнае, шмат важнейшае, запраўды-ж галоўнае падставы незалежнасьці; адсюль і новы ўздым шалёнае русіфікацыі...

У сувязі з усім гэтым камунізуючая ўкраінская эміграцыя на Захадзе грунтоўна зьмяняе фронт. Так, ведамы орган прыхільнае да Саветаў украінскае эміграцыі, выдаваны ў Празе, „Вільна Украіна“, зачынены дэманстрацыйна яго кіраўніком Бачынскім. А сам гэты Бачынскі, які яшчэ нядаўна ўцёк з Галічыны ад суду за „камуністычную дзеяльнасьць“, заявіў, што зракаецца ўсякае прапаганды на карысьць Саветаў, бо самагубства Скрыпніка і поэты Хвілёвага расчыніла вочы ўсім на запраўдны характар таго „вырашэньня ўкраінскае справы“, якое робіць Масква.

Акурат — так сама, як беларусом раскрылі вочы самагубства Ігнатоўскага і замах на сваё жыцьцё Я. Купалы.

---

# Да ведама бацькоў беларускіх вучняў у Вільні.

Мы атрымалі гэткі камунікат ад Дырэкцыі Беларускае Гімназіі у Вільні.

Справа вучэньня дзяцей у сярэдняй школе для беларускага селяніна ў сучасны мамэнт зьяўляецца ня лёгкай: не гаворачы ўжо аб даволі высокай аплаце за навуку, справа ўтрыманьня дзяцей ў горадзе апошнімі часамі сталася вельмі клапатлівай.

Беларускае Дабрадзейнае Т-ва, якое вось ужо больш 5-цёх гадоў прыходзіць з дапамогай школьнай моладзі, у прошлым школьным годзе апынулася само ў вельмі цяжкіх абставінах.

У надыходзячым школьным годзе могуць паўстаць яшчэ большыя труднасьці і дзеля гэтага Дырэкцыя Віленскай Беларускай гімназіі пастанавіла ў 1933/34 шк. годзе арганізаваць інтэрнаты на наступных падставах:

Кожнаму, хто хоча жыць у Інтэрнаце, будзе забясьпечана: памяшчэньне, апал, сьвятло і абед, які будзе складацца з поліўкі на мясе ці сале і кашы, закрашанай саламъ, тукам ці малаком, а такжа хлеба па 250 гр. на душу. Раніцою і вечарам можна будзе атрымаць толькі вар ці несалоджаную каву. Акром таго Дырэкцыя гімназіі забясьпечвае ўзгадаваўчы дагляд над інтэрнацкаю моладзьдзю. За такое ўтрыманьне ў Інтэрнаце вызначана плата толькі 140 зл. за школьны год (што выносіць каля 15 зал. у месяц).

Зразумела, што пры такім утрыманьні бацькі павінны будуць высылаць сваім дзецям дадаткова на сьнеданьне і вячэру натурою: сала ці масла і хлеб— раз на тыдзень ці на 2 тыдні. У сучасны мамэнт паштовыя пасылкі з жыўнасьцю каштуюць вельмі танна, а прадукты на вёсцы ці ёсьць свае, ці каштуюць значна таньней, чымсь у горадзе.

Вельмі бедным, якія прадставяць з гміны так зв. пасьведчаньні „*ubóstwa*" (памятайце, што пасьведчаньне „ubóstwa" гэта ня тое, што пасьведчаньне аб незаможнасьці), Дабрадзейнае Т-ва вызначыць стыпэндыі на пакрыцьцё вышазначаных 140 зл. у год за ўтрыманьне ў інтэрнаце. Зразумела, што стыпэндыяй, пры сваёй беднасьці, можа карыстацца толькі той, хто мае агульную ацэну пасьпехаў „*добрую*".

Зазначаецца пры гэтым, што *дадатковую ежу* (на сьнеданьне і вячэру) *нават стыпэндысты абавязкава павінны мець сваю*. Належныя за інтэрнат грошы павінны ўнасіцца па 70 зл. у паўгодзьдзе наперад (20-га жніўня і 16 студзеня).

Тым, хто прадставіць 1) пасьведчаньне аб незаможнасьці і 2) гаранцыйны вэксаль на 50 злотых, можа быць вышазначаная плата разтэрмінавана такім чынам:

| | |
|---|---|
| 20 жніўня | 20 зл. |
| 15 верасьня | 15 „ |
| 15 кастрычніка | 20 „ |
| 15 лістапада | 15 „ |
| 16 студзеня | 20 „ |
| 15 лютага | 20 „ |
| 15 сакавіка | 15 „ |
| 15 красавіка | 15 „ |

Тэрміны гэтыя павінны быць дакладна датрыманы.

Акром таго, дзеці, якія жывуць у інтэрнатах, павінны мець:

хлапцы: — 4 кашулі, 4 пары нагавіц, 4 ручнікі, 4 посьцілкі, 5 пар шкарпэтак, 6 насатак і 1/2 мэтра палатна.

дзяўчаты: — 4 кашулі, 4 пары кальсонаў (нагавіц) (з іх 1 пара цёплыя), 4 ручнікі, 4 посьцілкі, 3 шт. станікаў, 3 пары панчох, 3 навалачкі, 5 насатак і 1 мэтр палатна.

*Увагі*: I) Усе вучні павінны мець: 1) форменныя шапкі, а вучаніцы форменныя бэрэты (шапкі без казыркоў), 2) гімнастычны касьцюм і 3) туфлі.

II) На новыя форменныя шапкі, якія, згодна з загадам Міністэрства, абавязваюць усіх вучняў (ніцаў) дзяржаўных школаў з пачаткам гэтага школьнага году, а также на спэцыяльныя адзнакі школы, якія нашываюцца на рукавох, дзеці павінны мець 3 зл.

Вышазначаныя варункі ўтрыманьня ў Інтэрнатах у гэтым годзе будуць прыняты і ў жаноцкім інтэрнаце Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Цёткі.

Прыпамінаем, што бацькі, якія хочуць, каб для іх дзяцей былі забясьпечаны месцы ў Інтэрнатах, павінны не пазьней 15-га жніўня пераслаць аб гэтым Дырэкцыі гімназіі просьбу (заказным пісьмом), далучыўшы адпаведныя пасьведчаньні гміны.

Узор гэтай просьбы наступны:

Дырэктару Віленскай
Беларускай Дзяржаўнай гімназіі

(імя і прозьвішча бацькі)

(адрас)

ПРОСЬБА.

Далучаючы пры гэтым: 1) пасьведчаньне гміны аб незаможнасьці (ubóstwie) і 2) падпісаны мною гаранцыйны вэксаль на 50 зл., гэтым прашу прыняць сына (дачку) ма.......... вуч.................кл. ..........

.......................... імя у інтэрнат.
прозьвішча вучня

Зазначаю пры гэтым, што варункі ўтрыманьня ў інтэрнаце мне ведамы і забавязуюся іх дакладна выканаць.

подпіс бацькі.

---

М. Машарэ.

# Вось тут і зразумей...

**Драматычны абразок у 2-х адслонах**

**(Тэма запазычана з гутаркі з каморнікам *Ю.С.*)**

**(Працяг).**

ЗЬЯВА 6-я.

**Тыя-ж, Ганула і Антось.**

(Ганула плачучы выбягае з хаты, перабягае па сцэне і хаваецца ў хаце каморніка. Галінка бяжыць за маткай. З хаты за Ганулай выбягае Антось, бяжыць за Ганулай і хоча ўзабрацца на ганак. Каморнік устае, выцягівае руку і затрымлівае яго).

**Каморнік**—(лагодна) Кінь, Антось... Як табе ня сорам з бабай вазіцца. Здаецца, ты чалавек разумны, а напіўся й прычапіўся біцца да жонкі. Няпрыгожа, Антось!.. ідзі лепш спаць... Праcьпішся, — сам будзеш ня рады...

А заўтра зрана зноў пойдзеш да працы.

**Антось**—Праца, пане каморнік, адно, а жонка другое... Пусьцеце, пане каморнік (лезе на ганак. Каморнік зноў затрымлівае яго). Не перашкаджайце! Гэта-ж наша справа. Яна мая жонка і каб мяне так зьняважаць? Мне, гаспадару, паднасіць фігу? Ды я ей рукі выкручу... я ей калдуны вырву. Я ей...

**Ганула**—(тым часам зноў паказываецца на ганак із-за плеч каморніка).

Ня страш, ня страш, не баюся!.. Вось Табе, разбойнік!... вось яшчэ, яшчэ (дае з-за плеч каморніка яму фігі і зноў хаваецца ў хату).

**Антось**—(страшэнна злы, рвецца на ганак. Каморнік устрымлівае). Пусьцеце, пусьцеце, пане каморнік! Ці-ж вы ня бачыце? Ці ж так можна? Не перашкаджайце..., тож мая жонка.

**Каморнік**—Так, жонка твая, Антось, але хата мая... і пакуль твая жонка ў маей хаце, яна мой госьць. Ты разумееш, Антось?... Яна пад маей апекай, і я цябе ня пушчу, не дазволю Табе яе біць,—разумееш?

**Антось**—(не разумеючы). Як-жа так, пане каморнік? Так-жа ня можна! хата ваша, жонка мая. Вы-ж бачылі: яна мяне

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Пераход з пачаткавых школаў у гімназіі.** Да сёлетняга году па сканьчэньні 7-мёх аддзелаў пачаткавае школы можна было паступаць у 4-ую клясу гімназіі, што звычайна і рабіла нашая беларуская моладзь, ня меўшая магчымасьці вучыцца ў гімназіі ад 1-шае клясы.

Пачынаючы ад сёлетняга школьнага году справа прадстаўляецца інакш. Згодна з новаю праграмаю пачаткавых і сярэдніх школ, у гімназію можна перахадзіць па сканчэньні шасьцёх аддзелаў, паступаючы ў III-цюю (I па новаму) клясу. На той год па сканчэньні 7-га аддзелу нельга будзе ўжо паступіць у 4-ую кл. гімназіі, бо ў III-яй клясе ўжо будзе прахадзіцца лацінская мова.

Аб гэтай вельмі важнай зьмене відаць яшчэ ня ўсе беларусы, як сьлед, паведамлены, і дзеля гэтага мы зварачаем увагу бацькоў, дзеці каторых скончылі 6 ці 7 аддзелаў пачаткавае школы, каб не змарнавалі часу.

Пасылайце, Бацькі - Беларусы, сёлета сваіх дзяцей у Беларускія гімназіі ў Вільні і Наваградку!

**Тыя, хто скончыў шэсьць аддзелаў пачат. школы, паступайце ў III-цюю клясу, а хто скончыў 7 аддзелаў — у 4-ую клясу гімназіяў. Памятайце, што на той год і тыя, якія скончылі 7 аддзелаў, будуць мець права паступаць толькі ў III-цюю клясу, і такім чынам год змарнуеце, бо прыгатавацца з лацінскае мовы ў хаце вельмі трудна.**

**Усе дзеці-беларусы, якія скончылі 6 ці 7 адд. пач. школы, прасеце сваіх бацькоў яшчэ ў гэтым годзе пасланць Вас у свае родныя гімназіі!**

Век для паступленьня ў III-цюю клясу гімназіі—ад 12 да 16 гадоў, а ў IV-ую — ад 13 да 17 гадоў.

Заявы падаваць **да 20-га жніўня**. Экзамены адбудуцца ад 21 да 25 жніўня.

**Плата за навуку ў Беларускай Філіі Дзярж. Гімназіі ім Ю. Словацкага ў Вільні.** Прыймаючы пад увагу, што на выдаткі, зьвязаныя з утрыманьнем парадку ў гімназіі (апал, сьвятло, крэйда, чарніла і інш.) Міністэрства ў сучасны мамэнт грошай не дае, кожная ўрадовая сярэдняя школа павінна ўтрымлівацца з тэй часткі адміністрацыйнае таксы, якая ёй па закону прыпадае.

Дзеля гэтага ў 1933/34 шк. годзе вучні(цы) павінны ўносіць належную ад іх плату за навуку ці то адразу за паўгодзьдзе згары, ці то ў наступных тэрмінах:

| | | |
|---|---|---|
| да 1. IX. | 40 зл., а для тых, што плацяць 1/2 -- | 20 зл. |
| „ 1 кастрыч. | 40 „ „ „ „ „ | 20 |
| „ 1 лістапада | 30 „ „ „ „ „ | 15 |
| „ 1 лютага | 40 „ „ „ „ „ | 20 |
| „ 1 сакавіка | 40 „ „ „ , „ | 20 |
| „ 1 красавіка | 30 „ „ „ „ „ | 15 |

Тыя, што хочуць быць звольненымі ад палавіны адміністрацыйнае таксы, павінны злажыць Дырэкцыі Гімназіі да 1 верасьня аб гэтым просьбу і далучыць пасьведчаньне аб незаможнасьці. Са звальненьня ад усяе платы за навуку карыстаюцца толькі тыя

---

зьняважае, — мяне, гаспадара! — Пусьцеце, пусьцеце, я яе навучу, прынаду...

**Каморнік**—(стоячы) Сказаў: ня пушчу, то ня пушчу!—Ідзі спаць! лепш будзе...

**Антось**—(яшчэ энэргічней лезе на ганак). Пусьцеце, як-жа так!—так-жа ня можна.

**Каморнік**—(з пагрозаю) Антось! Глядзі!... Я з табой інакш зраблю!... (крычыць у хату: Гэй, Тумаш! Пакліч Солтыса.

**Антось**—Што, зьвяжаце? За маю жонку? Тож вам, панок, ня пляны. . не... не... жонка мая, і няма такога права, каб сваю жонку ды ня можна было вучыць!

ЗЬЯВА 7-я.

**Тыя-ж, Солтыс і два хлапцы.**

**Солтыс**—(да каморніка). Што трэба, пане каморнік?

**Каморнік**—(паказываючы на Антося). Забярэце яго, супакойце.

**Солтыс**—(да Антося). Пайдзем, Антось! Годзе буяніць!

**Антось**—А ты што за ўказ? няма такога права...

**Солтыс**—(перабіваючы). Пайдзем, кажу! хочаш, каб зьвязаў? (да хлапцоў) бярэце яго, вядзіце (хлопцы хапаюць Антося за рукі).

**Антось** — (Мацуючыся з хлапцамі). Пускайце, чэрці! няма такога права... што слухаеце?... Хай сам спрабуе!... Я яму, зладзею, галаву разаб'ю.

**Солтыс**—(грозна) Што?... што ты сказаў? Я злодзей?... Зьняважаць мяне? Зьняважаць уладу?—Я цябе, разбойнік, у Сібір зашлю!... на катаргу!

**Антось**—(рвучыся ад хлопцаў). Пускайце, гады! Лепш будзе! То ня ваша справа; Мая жонка, я ёй пакажу, як шанаваць дзеда-

**Ганупя**—(праз вакно) Ня страш, ня страш, лайдак! не баюся!... Злодзей ты, разбойнік! Вось Табе, вось, вось! (дае яму фігі; хлопцы сьмяюцца).

**Антось**—(раптам вырываецца з рук хлапцоў). Я-ж табе пакажу, прынада! (кідаецца да адчыненага вакна, зьбівае вазон і сілiцца праз вакно ўлезьці ў хату; хлопцы ізноў хапаюць і адцягваюць яго).

**Каморнік**—Годзе вазіцца з ім!. Вяжэце! гэтак ён яшчэ вокны паб'е (ў хату). Тумаш! Кінь там вяроўку! (хлопцы валяць Антося на зямлю. Тумаш праз вакно кідае два кускі вяроўкі).

вучні(цы), якія прадставяць пасьведчаньне „*ubóstwa*“ ды мецімуць агульную ацэну пасьпехаў „добрую“.

## На правінцыі.

**Самі вучымся чытаць пабеларуску.** (Вёска Есьманаўцы, Гарадоцкай гм.). У нашай вёсцы, дзякуючы ТБА, адчынілася бібліатэка. Людзі з вялікай ахвотай чытаюць кніжкі. Есьць кніжкі ў беларускай мове, ёсьць і ў польскай. Але вось бяда, што ня ўсе пісьменныя адразу могуць чытаць кніжкі ў роднай мове, бо ня ўмеюць літараў граждан-кі. Дзеля таго мусяць спачатку вучыцца чытаць па беларускаму лемантару, а гэта кніжка ёсьць у бібліатэцы толькі адна! ходзіць яна ад аднаго да другога па калейцы. Часам доўга прыходзіцца чакаць калейкі. Ці ня прыслалі-б нам з Вільні яшчэ некалькі лемантароў? Мы ўжо пакрысе зьбіраем грошы і, колькі будзе належаць, вышлем.

Вось як блага бяз школы ў роднай мове: ня можам карыстацца з кніжак у роднай мове, а ў чужой мове ня кожны з нас і ня ўсё зразумее. **Сусед.**

**Памажэце нам!** (Вёска Сеткі, Лебядзеўскай гм.). Жыцьцё нашай вёскі ня вельмі цікавае. Зямлі ў нас ня шмат, надзелы невялікія, заработкаў, як і ўсюды, няма. Вольнага часу маем даволі. Хацелі-б яго выкарыстаць. Моладзь, а навет і старэйшыя людзі горнуцца да асьветы, бо праз яе, пэўне-ж, палепшылася-б нашае жыцьцё; але ня маем кніжак. Зьвярнуліся да ТБА з просьбай выслаць бібліатэку і чакаем на прысылку яе.

Браты-беларусы з Вільні! Парупцеся, каб здаволіць нашыя патрэбы, каб даць кніжку ў роднай мове! **Б.**

**Трэба кніжкі для вёскі.** (М. Валожын). Каля Валожына і ў самым Валожыне жывуць пераважна беларусы. На кірмашах чуецца гутарка толькі беларуская. Але вось кніжак беларускіх дык амаль нідзе ня ўбачыш, бо дастаць няма дзе. Неяк на кірмашы адзін чалавек прадаваў маленькія беларускія кніжкі. Якое-ж гэта было дзіва і якая радасьць для людзей! Адзін селянін, як убачыў гэтыя кніжкі, купіў адну і проста пачаў плакаць ад радасьці, што дастаў кніжку ў сваей роднай мове. А такіх-жа людзей па нашых вёсках шмат, толькі рэдка да каго трапляе кніжка ў роднай мове, бо часам няма за што купіць, але і маючы пару грошай ня ведаеш, дзе купіць. **Валожынец.**

**Пара знаць!** (З Пастаўшчыны). Каб пазнаць вялізарнае значэньне каапэрацыі, напішу я аб нашым школьным каапэратыве (пры школе паўшэхнай у вёсцы Харках Пастаўскага павету). У школьным годзе 1931-32 вучні 5, 4 і 3 аддзелаў, ідучы за радай кіраўніка гэтай школу п. З. Анікудовіча, залажылі ў школе каапэратыў. Складаючы грошы на каапэратыў, клалі, хто колькі мог ды хацеў, так што разам злажылі 34 злоты. Выбралі свой урад з вучняў пятага аддзелу, які складаўся з 3 асоб (яны, ведама, былі бясплатныя). Гэты ўрад меў за заданьне выпісаваць з Вільні і прадаваць тавары. Тавары ў нашым каапэратыве былі гэткія: сшыткі, алавікі. гумкі і пёры. У канцы школьнага году (праз 10 месяцаў) наш каапэратыў меў усяго разам 113 злотых, у гэтым зыск 79 злотых. Хто ўлажыў 1 злот, атрымаў 3 з лішнім.

Вось гэты дробны прыпадак, а як ён многа і добра кажа аб каапэрацыі. Вучні

---

**Антось**—(ляжыць). Разбойнікі, зладзеі! пушчайце! няма такога права..

**Солтыс** — Вось табе права, рыштант! (вяжа яму рукі й ногі. Ганулля выбягае з хаты, схіляецца над Антосем і тыкае яму пад нос то фігу, то кулак).

**Ганулля**—Вось табе, разбойнік! Вось табе, гад! На... на... маеш... Я табе нос разаб'ю! Я табе вочы выдзеру!

**Антось**—(У п'яным бяссільлі, заледзь варочаючы языком і адварачываючы твар ад Ганулінага кулака). Адстань, прынада... адчапіся, кажу табе (хлопцы і солтыс рагочуць).

**Ганулля**—(Заядла падстаўляючы да носа то кулак, то фігу, то з аднаго боку, то з другога). Што, ня любіш, лайдак?... не падабаецца? На... на... яшчэ... яшчэ... п'яніца!...

**Каморнік**—Суседка, кіньце зьдзекавацца над ім! (да хлопцаў). А вы, хлопцы, аднясеце яго пад паветку на салому, хай прасьпіцца. (Хлопцы і солтыс нясуць Антося за вугал каморнікавай хаты налева. Ганулля не адстае, ідзе і ўсьцяж пагражае Антосю. Той мармоча штось у бяссільлі. Усе выходзяць, на ганку адзін каморнік. За сцэнай чуваць злы голас Ганулі).

ЗЬЯВА 8-я.

**Каморнік адзін.**

**Каморнік**—Мужык добры, але і баба заядлая. (Крычыць у той бок, куды вынеслі Антося): Суседка, кіньце вы ўрэшце, як вам ня сорам! вы-ж жанчына!

ЗЬЯВА 9-я.

**Каморнік і Ганулля.**

**Ганулля**—(выходзячы з-за вугла:) Цярплівасьці ў мяне не хапіла ўжо, панок. Душу ён з мяне выцягнуў... Усё жыцьцё абрыдла.

**Каморнік**—Ну, не заўсёды-ж ён такі. Самі казалі, што ён ня п'яніца, а кірмашы такія здараюцца раз у год.

**Ганулля**—(скрозь сьлёзы). Ня п'яніца, панок, ды горш п'яніцы бывае. Як выцярпець кожны год так? Сіл у мяне не хапае. Вось, як прыдзе гэты час, пачнуцца ў мястэчку кірмашы, дык пакуль і ня пройдуць — тыдні два не спатыкаецца дома: і днюе, і начуе з сваей кампаніяй у мястэчку. Пакуль апошнюю капейку не прап'е,—нічога яму ня трэ-

нашае школы, замест даваць зарабляць прыватным таргоўцам, давалі зарабляць сабе. Апроч таго ня трэба было іесьці ў краму за некалькі вёрст, бо маглі знайсьці тое намесьцы ды яшчэ па ніжэйшай цане.

Хоць мне маладому не выпадае крытыкаваць старэйшых, аднак скажу простымі словамі: і паміж нашых старэйшых брак зразуменьня, што добрае, а што благое. Але ўжо пара знаць!... Хай жыве каапэрацыя!

Уладзімір Назаровіч.

**Цемната—наш вораг.** (в. Гародзькі Забрэзскай гм.). Няцікавае жыцьцё па нашых вёсках: зямлі мала, зарабіць няма гдзе, каб і хацеў. А тут яшчэ і свае суседзі адзін другому не спагадаюць. Дзе там! Бэз усялякай патрэбы робіць адзін другому шкоду: топчуць і спасваюць сенажаці; збожжа калі палоска пры дарозе, наробяць столькі сьцежак, што ад самай палоскі нічога не застанецца. А ўсё гэта ад нашай цемнаты, а ўсё ад таго, што школы, у якіх вучаць папольску ды якія дзеля гэтага для вёскі чужыя, ня маюць уплыву на людзей. Толькі гаворыцца аб асьвеце вёскі, а робіцца вельмі мала.

Браты беларусы! Гарнімся больш да асьветы, дык і жыць будзе лягчэй, дык і шкоды адзін другому ня будзем рабіць, а наадварот — будзем памагаць у бядзе і няшчасьці! С.

## У Літве.

**З студэнцкага жыцьця.** Невялікая група студэнтаў-беларусаў, якія вучацца ў літоўскім унівэрсытэце ў Коўне, з'арганізаваўшыся ў „А'бядналеньні студэнтаў-беларусаў унівэрсытэту Вітаўта Вялікага", выяўляе значную рухавасьць. Як падало ковенскае „Эхо" з 7. VII, нядаўна быў зладжаны „Аб'яднаньнем" вечар літоўска-беларускага збліжэньня, на якім была адыграна п'еска Я. Башкіра „Гурток", дэклямаваліся беларускія вершы, а хор пяяў беларускія песьні. Пасьля адбылася гарбатка з удзелам запрошаных прадстаўнікоў літоўскае інтэлігенцыі.

Крок беларускае моладзі трэба шчыра прывітаць. Пажадаем толькі, каб у далейшым на такіх вечарох беларуская драматычная творчасьць была прадстаўлена больш цэннымі п'есамі, чым гэны „Гурток".

**Беларускі Народны Тэатр у Літве** ў працягу лета паставіў рад спэктакляў у Коўне і на правінцыі.

## У Латвіі.

**„Беларуская Школа ў Латвіі".** Вышаў чарговы нумар гэтага часопісу (красавік-травень) і зьмяшчае цікаўны матэрыял. Апрача прадаўжэньня стацьці грам. Б. Брэжго п. н. „Ахова помнікаў старажытнасьці на Віцебшчыне", у гэтым нумары дадзена добра распрацаваная праграма дзеля зьбіраньня вуснае народнае творчасьці, а такжа працяг стацьці К. Езавітава „Да гісторыі зьбіраньня і гарманізацыі беларускай народнай песьні". Нумар дапаўняе хроніка беларускага жыцьця ў Латвіі, фотографіі і заметкі аб сёлетніх юбілярах — вучыцялёх А. Хруцкім і С. Сіцька, фотографіі з беларускага жыцьця ў Коўне. Распачынае нумар стацьця, пасьвячоная латышскаму пісьменьніку А. Курцы.

**Чытайце і пашырайце нашу газэту.**

---

ба, нічога ня шкода; а калі, бывае, прыцягнецца, як сёньня, дык як чорт: слова яму не скажы... Патрапляй, як скуле благой, а то зараз біцца. Другі раз так заб'е, так заб'е, што дзіва: ў чым дух трымаецца? Мне, панок, увесь сьвет абрыд за ім. Каб не дзіцянё, кінула-б рынула-б усё і пайшла-б, куды вочы глядзяць. Ох, горачка маё, горачка.

**Каморнік**—Ну, біць ён ня мае права, за гэта яго можна ў суд, у вастрог на пару тыдняў, або на які месяц; пасядзіць — паразумнее.

**Гануля**—Паночку, што яму месяц вастрогу! Яго-б за гэта ў ланцугі, у катаргу, гада! Я-б яго за гэта вагнём пякла!... Сібіры яму мала, а ня месяц вастрогу! (З просьбай): Паночак, вы чалавек вучоны, усё ведаеце. А каб так разьвянчацца? Ці нас бы разьвянчалі?

**Каморнік**—Ну, што вы, што вы эдумалі, суседка! кіньце гэта! У вас-жа дзіцянё... мала што бывае ў жыцьці. Як-жа гэта вы зразу і разьвянчацца?

**Гануля** — Калі, далі бог, панок, далей цярпець сіл не хапае, нічога ня шкода, жыцьцё ня міла. Ну, бывайце, панок! Выбачайце мне, дурной бабе. Дзякую, што яго зьвязалі, што абаранілі мяне бедную.

**Каморнік**—Ідзеце з Богам,—няма за што, а заўтра паглядзім. Я пагутару зім; калі не паправіцца, дык мы яго ў арышт на пару тыдняў. Пасядзіць,—палепшае. А аб разводзе вы і думаць кіньце.

**Гануля**—Зрабеце ласку, панок, хай вам Бог заплаціць! (клікае): Галінка! Галінка! дзе ты? Ідзем, дачушка, спаць. (Галінка выбягае з хаты каморніка і йдзе за маткай у сваю хату).

ЗЬЯВА 10 я.

**Каморнік адзін.**

**Каморнік** - (нейкі час стаіць у задуменьні). Ну і абраз!... Ну і жыцьцё! — гэта называецца мужыцкім сямейным шчасьцем!...

І як гэтыя людзі пасьля ўсяго гэтага адзін аднаму ў вочы глянуць?...

ЗАСЛОНА.

(Працяг будзе).

## Б. С. С. Р.

**„Фашыстаўскія ячэйкі ў Савецкай Беларусі“.** Рэдакцыя „Kur. Wil.“ атрымала праз Стоўпцы вестку, што ў Койданаўскай акрузе ГПУ выкрыла дзеяльнасьць ячэек новастворанае тайнае арганізацыі расейскіх фашыстаў. Гэныя ячэйкі вялі сярод сялян інтэнсыўную агітацыю, заклікаючы да перавароту і зьніштажэньня камуністычнага ладу. У паасобных вёсках арыштаваны колькі сялян.

Падаючы гэту вестку паводле польскае газэты, лічым сваім абавязкам адзначыць, што Койданаўская акруга — гэта ёсьць чыста беларуская акруга, абвешчаная маскоўскімі ўладамі за польскую. Тут беларускае насяленьне гвалтам перарабляецца на палякоў, замест зачыняных беларускіх школаў адкрываюцца польскія, урадовая мова заводзіцца польская. І вось — уся гэтая полёнізацыйная акцыя аказваецца ў сваіх выніках вадой на млын... маскоўскае белагвардзейшчыны і фашызму!

# Палітычная хроніка.

**Прысьпяшэньне выбараў у самаўрады ў Польшчы.** Газэты даносяць, быццам ужо ў верасьні — ў зьвязку з новай арганізацыяй тэрыторыяльнага самаўраду ў Польшчы — маюць быць апублікаваны адпаведныя загады і правілы ў справе выбараў, а зараз-жа пасьля гэтага адбудуцца і самыя выбары, сьпярша ў меншых гмінах, а пасьля і ў вялікшых.

---

**Адклад лёнданскай канфэрэнцыі.** На ўрачыстым пасяджэньні 27 ліпня гаспадарчая канфэрэнцыя ў Лёндане прыняла пастанову аб перарыве сваей працы на неазначаны час. Але скептыкі ня вераць, каб яна сабралася ізноў: настолькі сільнае расчараваньне „пасьпехамі“ канфэрэнцыі пануе сярод усіх дэлегацыяў.

З 25 прамоваў на ўрачыстых „хаўтурах“ Канфэрэнцыі вясёлая была толькі адзіная прамова савецкага дэлегата Майскага, які з нехаваным здаваленьнем сцьвярдзіў, што агульны „балянс“ Канфэрэнцыі — роўны 0... „Канфэрэнцыя бязладна ўцякае з поля бітвы“, кпіў ён з яе буржуазных ініцыятараў.

**Гітлер за „працай“.** У Гітлераўскай Нямеччыне выданы і ўвайшоў у сілу закон, які дае ўладам „права“ рабіць прымусова над некаторымі катэгорыямі людзей крывавую апэрацыю, пазбаўляючую іх магчымасьці мець дзяцей. Апэрацыі падлягаюць асобы, якіх спэцыяльная камісія прызнае ўмыслова хворымі, прыроджанымі ідыётамі, эпілептыкамі (хворымі на падучку), сьляпымі ці глухімі ад ураджэньня і г. д.

Мэта закону — пазбавіць гэтых асобаў магчымасьці далей пладзіць сабе падобных. Мэта — добрая, няма што казаць; але-ж спосаб — запраўды-ж барбарскі. Ня кажам ужо, што новы закон можа лёгка стацца ў руках гітлераўцаў прыладай тэрору і барацьбы з палітычнымі ворагамі: прызнае папросту камісія (паўне-ж зложаная з 100-працэнтавых гітлераўцаў-чэкістаў!) „непажаданую“ асобу — прыкладам жыда ці „марксіста“ — „прыроджаным ідыётам“, выканае свой уласны прысуд — без апэляцыі, а пасьля даказывай сабе судовую абмылку...

**Пагроза ўсходня-прускіх „патрыётаў“.** Як ведама, Гітлер маніцца скасаваць цалком клясу буйных абшарнікаў, якая да вайны, гуртуючыся найбліжэй трону, фактычна кіравала дзяржавай. Уцалеўшыя ад рэвалюцыі маёнткі гэтых абшарнікаў, пераважна ў Усходняй Прусіі, маюць быць распарцэляваны Гітлерам паміж „сваімі людзьмі“. Гэткім чынам Гітлер забівае адразу двух зайцоў: дае заплату тым, што дапамагалі яму здабыць уладу, і забівае дарэшты небясьпечнага канкурэнта на ўладу, рашучага староньніка ўскрашэньня манархіі. Бо да манархіі Гітлеру зусім ня сьпешна: манархія — гэта-ж канец ягонае ўлады!

Але найцікаўней, што ўсходня-прускія абшарнікі, якія заўсёды лічыліся дый рэклямавалі сябе найгарачэйшымі патрыётамі, даведаўшыся аб гэтых мяркаваньнях Гітлера, паведамілі прэзыдэнта Гіндэнбурга (так сама абшарніка з Усх. Прусіі), што — у мамэнт, калі Гітлер прыступіць да правядзеньня — коштам іх маёнткаў — зямельнае рэформы ў Усх. Прусіі, яны захопяць уладу, аддзеляцца ад Нямеччыны і абвесьцяць Усходнюю Прусію (адрэзаную, як ведама, ад рэшты Нямеччыны так-зван. „польскім калідорам“) — незалежнай дзяржавай...

Дачуўшыся аб гэтым, Гітлер зараз-жа выслаў у Прусію шэфа сваей „чрэзвычайкі“, каб „усьмірыць“ збунтаваўшыхся абшарнікаў...

**Гішпанія прызнала Саветы.** Міністар замежных спраў Гішпаніі і ком-ін-дел Літвінаў абмяняліся нотамі, у якіх Гішпанія і СССР узаемна прызналі фармальна адзін аднаго. Літвінаў заявіў, што ўрад СССР гатовы безадкладна прыступіць да ўзаемнага абмену паслоў і заключэньня савецка-гішпанскага гандлёвага трактату.

**Амэрыка мае прызнаць СССР.** Амэрыканскі ўрад мае ў хуткім часе прызнаць фармальна савецкі ўрад і СССР. Перагаворы ў гэтай справе быццам ужо распачаў паўнамочнік Рузвэльта сэнатар Барух з Літвінавым.

**Нямецка японскі саюз проці СССР.** Англійская прэса даносіць, быццам паміж Японіяй і Нямеччынай ідуць тайныя перагаворы аб заключэньні ваеннага саюзу, скіраванага проці СССР. Гарачым прыхільнікам такога паразуменьня з Японіяй зьяўляецца ведамы Розэнбэрг, найбліжэйшы дарадца Гітлера ў справах замежнае палітыкі.

**Зрыў савецка-манчжурскіх перагавораў.** Распачатыя ўжо перагаворы між Саветамі і Манчжурыяй ды Японіяй у справе прада-

жы Усходня-Кітайскае чыгункі раптам сарваліся, як можна было і спадзявацца. Ня зыйшліся насамперш у цане: Савецкі ўрад зажадаў 200 міл. залатых рублёў, а Манчжурыя дае толькі 50. Трэба думаць, што Японія спадзяецца здабыць чыгунку дарма.

**Новы манархічны „замах" у Гішпаніі.** Гішпанская паліцыя раскрыла новую чарговую змову проці рэспублікі з боку манархістаў і фашыстаў. Арыштаваны больш 100 асобаў.

**Троцкі ў Францыі.** Францускі ўрад даў дазвол Троцкаму на неабмежаны побыт у Францыі, куды Троцкі ўжо і пераехаў, але цішком, каб укрыць сваю сядзібу ад страшэнна „цікавячаеся" яго лёсам расейскае эміграцыі...

# Гаспадарчы аддзел.

## Як ратаваць жывы інвэнтар ад пажару.

Лета — пара пажараў у нашых вёсках. Пры гэтым агонь зьніштажае ня толькі будынкі, але й жывёлу гаспадарскую, без якое селяніву жыць і гаспадарыць немагчыма. Дык трэба асаблівую ўвагу зварачаць на тое, каб у першы чарод ратаваць гэты яго скарб.

Усім ведама, як трудна вывесьці скаціну з хлеву, калі ў ім узьняўся пажар. Найлепш накінуць на галовы гунькі ці мяшкі, або выводзіць каней і кароў задам. Адвязваць і выводзіць, калі ёсьць час на гэта, трэба кожную штуку асобна, бо інакш яны толькі перашкаджаюць адна адной. Ня трэба пры гэтым падымаць крыку й нэрвавацца, бо гэта яшчэ больш палохае скаціву, якая і так шалее ад агню.

Сьвіньні трэба хапаць за заднія ногі і выкідаць з хлеву. Авечкі выйдуць самыя, калі ўдасцца вывесьці барана-павадыра.

Птаства трэ садзіць у мяшок і аднесіць у бясьпечнае мейсца, бо яно можа кінуцца назад у вагонь.

Вывеўшы скаціну, трэ таксама пілнаваць, каб не вярнулася назад у хлеў і не згарэла там.

Калі агонь абхапіў у хлеве вароты, дык трэ пастарацца разваліць сьценку, не абхопленую агнём, і тудой вывадзіць жывёлу.

Калі-б пажар удалося затушыць, але ў хлеве набралася дыму, дык трэба й тады скаціву спуль вывесьці і праветрыць хлеў, бо дым вельмі шкодны для скаціны.

Пчолы ў часе пажару трэба з вульлямі перанесьці ў бясьпечнае мейсца, куды б не даходзіў дым. Перад пераносам трэба вульлі пазатыкаць, але пасьля пераносу ўраз адаткнуць, каб пчолы не падушыліся.

Г. Б.

**Пашырайце нашу газэту!**

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 22 VII. Жыта гурт. 4 зл., дэт. 4 зл. 30 гр. Ячмень гурт. 4 зл., дэт. 4 зл. 30 гр. Авёс гурт. 2 зл. 30 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Пшаніца гурт. 5 зл., дэт. 5 зл. 60 гр. Бульба стар. кілягр. 0,07 гр., дэт. 0 8 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл.—2 зл. 40 гр. Масла прас. 3 зл. 10 гр.—3 зл. 50 гр., масла гаспадар. 2 зл. 50 гр.—2 зл. 80 гр. Яйкі 50-60 гр.—60-70 гр. Даляр 6 зл. 52 гр.

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

## Пруткае шкло.

Адным з найбольш карысных вынаходаў паваенных часоў ёсьць так-зван. „арганічнае шкло", якое вырабляецца не шляхам сплаўленьня пяску з окісламі мэталяў, але з рознага роду штучна вытвараных „жывіцаў"—шляхам спэцыяльнае іх хімічнае апрацоўкі,—каб даць плястычнай іх масе патрэбную цьвёрдасць і пруткасьць. У выніку доўгіх дасьледаў і спробаў удалося ўрэшце атрымаць прадукт, які ня толькі можа цалком заступіць звычайнае „неарганічнае" шкло блізу ўсюды, дзе яно тасуецца ў жыцьці і тэхніцы, але ў значнай меры перавышае яго сваімі дасканалымі свомасьцямі.

Арганічнае шкло мае празрыстасьць большую, чым найлепшыя гатункі звычайнага шкла. Але, апроч таго, яно не затрымлівае, як апошняе, найбольш карысных, ажыўляючых тканіны нашага арганізму, праменьняў сонца. Дзеля таго яно асабліва надаецца да вакопных рамаў, ствараючы ў хаце больш здаровыя варункі для жыцьця. Новае шкло, пры цьвёрдасьці мэталю, мае й яго пруткасьць; яно гнецца, як сталь, ня б'ецца, як шкло, але й не гарыць, не плыве ад гарачыні, дый толькі пры вялікім жары звугляецца. Яно ня горш, чым шкло, затрымоўвае („ізолюе", як кажуць фізыкі) цяплыню і электрычнасьць. Апроч таго, гэтае шкло можна „каваць", як жалеза, фармаваць, як гуму і абрабляць на такарскім станку, як дрэва.

Ясна з усяго, якое шырокае ўжыцьцё чакае новы вынаход у сучаснай тэхніцы. Шкада толькі, што пакуль-што высокі кошт яго прадукцыі не дае да гэта магчымасьці. Дык вось, чарговай задачай спэцыялістаў і будзе зьніжэньне коштаў вырабу гэтага вынаходу, які здольны зрабіць запраўдны пераварот у тэхніцы нашых дзён.

# Паштовая скрынка.

Гр. Буслу — двор Огаревічы, пав. Луніневецкі. 2/8 высланы Вам адказ на Вашае пісьмо. Ці атрымліваеце часопіс? Старайцеся, каб матэр'ял пападаў у нашыя рукі не пазьней, як у панядзелак.

Гр. Ул. Казаровічу. Аповесьць атрымалі. Аддамо кіраўніку „Кутка", які выехаў на летнія вакацыі і хутка вернецца.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22